# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Ню-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі:**
**"The Voice of the Church", 108 Wyckoff St., Brooklyn 1, New York, N. Y.**
**Tel.: ULster 2-7552** **Цана 50 цэнтаў**

№ 24 КАЛЯДЫ, 1966 ГОД 12

**БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ**

СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манаства, і ўсіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

„Вялікая тайна Боскасьці: БОГ ЗЬЯВІЎСЯ У ЦЕЛЕ" ( Цім. 3, 16).

**УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!**

Бог зьявіўся ў Целе! Ад Прачыстае Дзевы Марыі ў Віфлееме ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! І радуюцца ўсе сілы Нябесныя, усклікаюць Ангелы: „Слава на вышынях Богу, і на зямлі мір людзям добрае волі" (Лк. 2, 14). Але, усе людзі добрае волі, усе пабожныя хрысьціяне радуюцца й весяляцца, пяюць хвалу Боскаму Дзіцятку ў ясьлях.

Радуюцца ад вякоў, і будуць радавацца да канца веку, а пасьля й навекі з Ангеламі ў Нябёсах, бо, вось, Бог Айцец падзяліўся з намі Самым Сабою: Сваёю Боскаю Любоўю. Ён паслаў нам Адзінароднага Сына Свайго, каб нас выбеліць ад грахоў, злучыць з Сабою, крыніцаю Любові, што ўсё перамагае!

Любоў! Сэрца кожнага, навет таго, што ня веруе, прагне любові. Кожнае дзіцятка радасна ўзрастае целам і душою ў праменьнях любові бацькоў сваіх. Кожны добры чалавек цешыцца, калі бачыць любоў вакол сябе. Але, любоў, гэта нашае Нябеснае Сьвятло, нашае дабро, радасьць і шчасьце. Любоў, гэта Боскі вагонь у сэрцах нашых.

Гэты вагонь выпальвае ўсе няцноты нашыя, падымае да Нябёсаў, робіць нас падобнымі Ангелам, дае нам мудрасьць для пазнаньня Праўды, і сілу для асягненьня Яе.

Але, любоў, найбольшая цнота нашая: яна валадарыць над усімі імі! Таму сьв. вярхоўны Апостал Павал і ўсклікнуў: „А цяпер трываюць Вера, Надзея й Любоў, гэтыя тры, але большая зь іх Любоў" (1 Кар. 13, 13). І зразумела, бо ў жыцьці вечным Вера й Надзея ўжо перастануць існаваць, а Любоў застанецца навекі. Але, застанецца, бо-ж: „Бос ёсьць Любоў" (1 Іо. 4, 8).

Вось, дарагія дзеці нашыя, адкуль паходзіць вялікая радасьць нашая на РАСТВО ХРЫСТОВАЕ! Вось чаму радуюцца й весяляцца ня толькі Ангелы й людзі, але й усякае стварэньне Божае, калі бачыць гэтую вялікую тайну: Бог зьявіўся нам у Целе! Зь Нябёсаў зыйшла на зямлю, як малое Дзіцятка, Любоў. Не звычайная слабая людзкая любоў, а дасканалая Любоў Божая, Ісус Хрыстос, аднаістотны Айцу, каб усе ведалі, што запраўды: „З НАМІ БОГ!" (Мц. 1, 23).

Але, Ён, Ісус Хрыстос, дзеля нас, людзей, і дзеля нашага спасеньня зыйшоў зь Неба, стаў Чалавекам (Сымвал Веры). Зыйшоў, каб Сваімі Боскімі рукамі абняць увесь род людзкі, напоўніць яго Сваёю Любоўю Нябеснаю, збудаваць Сваё Валадарства Божае на зямлі, дзе ня было-б ніякае злабы, варожасьці, крыўды, ілжы, абману, паняволеньня, а толькі адно: мір-супакой, праўда, любоў і радасьць у Ягоным Духу Сьвятым.

Вось чаму ў кожнай пабожнай сямейцы радасьць незямная ў Ціхі Сьвяты Вечар перад ясьлямі Дзіцятка. Ад вякоў асабліва наш Беларускі Народ чакае на мір-супакой, свабоду й радасьць у Богу. Чакае асабліва цяпер там, удома, пад уладаю сучасных Ірадаў. І няма месца на сумлівы: неўзабаве ён дачакаецца гэтае вялікае Ласкі Божае. Бо асабліва цяпер „Сьвятло ў цемры сьвеціць, і цемра не агарнула яго" (Іо. 1, 5). Таму Мы радасна й заклікаем усіх вас: ХРЫСТОС РАДЖАЕЦЦА — ЯГО СЛАЎЦЕ! Слаўце ў Храмах і ў сэрцах сваіх, падобна Віфлеемскім пастырам ды падобна тром мудрацом складайце Яму дары вашыя: цьвёрдую Веру, непахісную Надзею й палымянную Любоў!

І, ЁН, стала Любові й Ласкі поўны, гляне ласкавым вокам Сваім на вас, прыйме дары вашыя, супакоіць і ўзмоцніць вас. У гэты Сьвяты Вечар успомніце й тых вашых родных і блізкіх, якіх няма з вамі, асабліва-ж тых, што жыцьцё сваё аддалі за нашую сьв. Веру й Бацькаўшчыну. Памалецеся й за ўвесь наш пакутны Народ Беларускі. І Боскае Дзіцятка напэўна прыйме гэтыя шчырыя просьбы-малітвы вашыя, багаславіць яго, і ўсіх нас.



А перадусім і найбольш любеце Таго, Каторы прынёс нам Любоў зь Нябёсаў: Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста, ды нашую сьв. Беларускую Праваслаўную Царкву. Жывеце ў згодзе й любові між сабою, бо: „Па тым і пазнаюць вас, што вы вучні Яго, калі будзеце любіць адзін аднаго" (Іо. 13, 35).

Гэтаю сваёю любоўю вы здабудзеце Ласку ў Госпада: па слову Яго зазьзяе Зорка Віфлеемская над нашаю вольнаю й слаўнаю Радзімаю, і народзіцца яна, нашая любая Маці-Беларусь, да новага, раднснага й шчасьлівага жыцьця ўжо назаўсёды! Бо: З НАМІ БОГ! „Я перамог сьвет" (Іо. 16, 33), Ён сказаў, а зь Ім і мы пераможам!

У гэтай Веры, Любові й Надзеі на Нованароджанага Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста вітаем вас, усечэсныя Айцы, і любыя Браты й Сёстры зь вялікім і радасным Сьвятам РАСТВА ХРЫСТОВАГА, і з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Пасылаем вам і ўсяму нашаму Вялікаму Беларускаму Народу Архіпастырскае багаславенства, і ўсклікаем: Бог Прадвечны Нарадзіўся! Яго й Прачыстую Дзеву Марыю слаўце!

Ласка, Мір і Багаславенства Госпада, для нас Народжанага, Князя супакою, крыніцы Любові й Шчасьця, Ісуса Хрыста разам з Богам Айцом і Богам Духам Сьвятым няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

**СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП СЕРГІЙ**
**Глава Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў**
**Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**
СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП **ВАСІЛІ**
**Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў**
**БАПЦ на Чужыне.**

Дана Году Божага 1966
месяца сьнежня
Аўстралія-Амэрыка.

## ПОМНІ...
### ТРАДЫЦЫІ

Калі мы назіраем дэманстрацыі нэграў у Амэрыцы, у нас часам зьяўляецца такая думка: о, калі-б мы, Беларусы, мелі ў Польшчы тыя правы, якія яны маюць тут, як добра нам было-б! А можа нэгры ў Амэрыцы бяднейшыя за нашых беларусаў у былой Польшчы? Але, сьмешна навет і пытацца аб гэтым! Нашыя людзі там часта ня мелі навет за што солі й газы купіць!

І, вось, многія нашыя Беларусы, пераважна сяляне, прыбылі ў Амэрыку, або ў іншыя краіны вольнага сьвету. Усе яны на пачатку былі ў многа горшым палажэньні, чым нэгры: ані мовы ня ведалі, ані граша ў кішані ня мелі. І, вось, сталася дзіўная рэч: празь якія дзесяць год амаль усе яны набылі свае ўласныя дамы, аўты, многія

дзеці іхныя ўжо здабылі дыплёмы ня толькі сярэдніх, але й вышэйшых школаў, а некаторыя навет навуковыя ступені! Ці яны маглі марыць аб гэтым у Польшчы? Але, кожны скажа: дзіўная рэч! Як вытлумачыць гэта?

Усё гэта можна вытлумачыць адным словам: ТРАДЫЦЫЯ. Што гэта традыцыя? Традыцыя гэта формы, ці спосабы жыцьця адзінкі й народу на працягу стагодзьдзяў. Гэтыя формы й спосабы жыцьця памалу пераходзяць у цела й кроў, і перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне. Розныя бываюць традыцыі: сямейныя, вясковыя й агульнанародныя, матар'яльныя й духовыя. Мы ня маем тут намеру разьбіраць усе формы гэтых традыцыяў. Коратка толькі скажам: ня гледзячы на вялічыню гаспадаркі, некаторыя нашыя сем'і ў вёсцы карысталіся пашанаю ўсіх, былі добрым прыкладам, а іншыя зноў выклікалі тількі жаль, насьмешкі. Былі й такія выпадкі: дзьве суседнія вёскі розьніліся між сабою як неба й зямля, бо ў адной быў лад, парадак, супакой, дабрабыт, а ў другой сталыя сваркі, бойкі, п'янства, зладзействы, галеча. І так было праз пакаленьні, і сталася традыцыяй як адной, так і другой вёскі. Розныя тут былі прычыны, мы падаем тількі факты.

А цяпер пяройдзем да нашае нязвычайна балючае агульнароднае традыцыі на працягу апошніх стагодзьдзяў. Хто толькі тут ня зьдзекаваўся над нашым народам! Ці-ж ня сталася свайго роду традыцыяй нашай такія словы: „мужык", „хлоп", „тутэйшы"! Беларус навет памалу пачаў забывацца на сваё імя, але, стаўся „тутэйшым", абы бізун менш сьвістаў! Так, абразьлівае слова „унтэрмэнш" ня выдумалі нямецкія нацыстыя, яно ўжо даўно бытавала ў нас у Беларусі. Ані адзін „пан" не лічыў Беларуса поўнавартасным чалавекам, і зьдзекаваўся над ім як над нявольнікам. Многія з нас яшчэ памятаюць гэтае нашае няшчасьце, або чытаюць аб ім у Я. Купалы, Я. Коласа, Э. Цёткі.

І, вось, мы прыходзім да другое дзіўнае рэчы: нявольнік, раб, ясна, ня можа мець ніякае ініцыятывы, без каманды ён нічога зрабіць ня можа, і калі навет атрымае свабоду, бо ўсё роўна праз доўгі час яшчэ адчувае сябе разгубленым, бязрадным. І зразумела, бо яшчэ ня мае практыкі, традыцыі вольнага чалавека. Тут, між іншым, была адна з прычынаў, чаму гэта дэмакратычная рэвалюцыя не магла ўтрымацца ў Расеі ў 1917 г. А чаму-ж гэта наш Беларус, як толькі атрымае найменшыя магчымасьці свабоды, зараз жа ня толькі дасьць сабе раду, але й станецца добрым прыкладам для другіх? Ужо з гэтага мы бачым, што наш Беларус ніколі ня стаўся рабом, нявольнікам. Ён быў такім толькі фізычна, але духова ніколі. Чаму? Што яму памагала тут? Традыцыя. Якая?



Можа тая, што Беларусы, як і другія народы, маюць сваю нацыянальную вопратку, свае песьці, танцы, навет мову? Не, хоць гэта ўсё таксама звычаі, традыцыі, але яны зьяўляюцца толькі вынікам асноўнае традыцыі, той традыцыі, якая гаворыць нам, што мы ня толькі апрычоны народ, але й запраўдная НАЦЫЯ, якая ўключае ў сябе такія важныя мамэнты: тэрыторыя, рэлігія, культура, мова, ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ.

На працягу стагодзьдзяў розныя ворагі нашае дзяржаўнасьці стараліся вырваць з душы нашага народу гэтую нашую асноўную, слаўную ТРАДЫЦЫЮ, схаваць яе пад глыбамі каменьняў. А ўсё-ж яна, як тая траўка, усьцяж прабівалася між гэтымі каменьнямі наверх, уваскрашала й узмацняла імкненьні нашага народу да аднаўленьня свае дзяржаўнасьці, выклікала надзею, гонар. Гонар Беларуса дзяржаўніка. Гонар Беларуса — запраўднага хрысьціяніна. Гонар Беларуса — культурнага чалавека. Гонар Беларуса — творцы, будаўніка. Празь вякі на Захадзе ўважалася выразам культурнасьці, між іншым, цалаваньне рукі жанчыны. А ўспомнім сабе, як ужо ад стагодзьдзяў у нас навет у звычайных сялянскіх сем'ях дзеці цалавалі рукі сваім мамам, татам, хросным, цёткам! Ніколі нашыя дзеці не гаварылі сваім родным „ты", а заўсёды „вы". Але, ужо з гэтага мы бачым, як добра ўзгадоўваліся нашыя дзеці, як добра яны ня толькі ведалі, але й выпаўнялі Запаведзь Божую: Шануй бацьку твайго, і маці тваю! Але, навет тады, калі гэтыя дзеці ўжо выраслі, і самі мелі дзяцей, яны й далей шанавалі бацькоў сваіх, цалавалі рукі ім! Такая была моцная ў нас традыцыя гэтая! Вартасьць і дабро яе мы асабліва добра разумеем тут, у Амэрыцы. Такая самая моцная была традыцыя бацькі — гаспадара, і маці — гаспадыні. Але, велікая пашана была ў нас да жанчыны! А калі гаспадар пачынаў сваю працу на полі, што ён перш-наперш рабіў? Памаліўся! Але, вялікую любоў да Бога меў наш народ! Але, высока маральны ён быў! Замест другому пашкодзіць, хутчэй стараўся патрабуючаму памагчы, асабліва-ж удаве й сіраце. Але, добры, міласэрны быў наш народ! І як ён стараўся, калі толькі было магчыма, насадзіць каля хаты сад, а ў агародчыку поўна кветак. Але, моцна любіў наш народ прыроду, сваю зямельку, красу, сваю Радзіму! А якія майстрыні былі нашыя жанчыны! Якія дываны яны вытыкалі, якімі мастацкімі вышыўкамі ўпрыгожвалі ручнікі, настольніцы, адзежу! Цяжка знайсьці тут падобных ім у іхнай любові да прыгажосьці!

Хто-ж ім памагаў тут? Можа ўлады? Нажаль, улады гэтыя былі чужыя, варожыя, яны толькі зьдзекаваліся над нашым народам, убівалі яму ў галаву, што ён бедны, ня здольны, не культурны, просты, мужыцкі, хлопскі, таму мае толькі служыць сваім паном.

Што-ж памагала нашаму народу быць добрым, міласэрным, духова высока культурным, зарадным, а часам навет і ганаровым? Толькі традыцыі нашыя. Традыцыі, якія перадаваліся праз лірнікаў, народных мудрацоў, казачнікаў, а пасьля ўжо праз народных паэтаў і пісьменьнікаў аб тым, што ў свой час мы мелі на ўвесь Усход сваю слаўную Дзяржаву, свае дэмакратычныя законы, сваю слаўную Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, што мы мелі ня толькі Усяславаў Чарадзеяў, сваё Веча-Парлямант, але й такіх волатаў духа, як прп. Еўфрасіньня, сьв. Кірыла Тураўскі, наш Златавусны, прп. Аўраам Смаленскі, др. Ф. Скарына й іншыя!

Але, гэтыя вось традыцыі нашага слаўнага мінулага ў большай ці меншай меры, сьведама, ці нясьведама стала гарэлі ў душах і сэрцах нашага народу. Іх ніхто ня змог поўнасьцю заглушыць, і гэта яны, як тая траўка між каменьнямі, усьцяж квітнелі сярод нашага народу, памагалі яму пераносіць усякія варожыя навалы, подступы, гвалты, і былі крыніцаю культуры. Гэта яны й цяпер, калі толькі Беларус атрымае хоць найменшую свабоду, памагаюць яму тварыць дабрабыт і культуру ды будаваць свае Храмы. І гэтыя слаўныя традыцыі нашыя прабіваюцца ўсьцяж ды ўсё болей выразна навет сярод самых страшных, бо бязбожных каменьняў на нашай пакутнай Радзіме. Навет там пачынае красаваць думка: Беларускі Народ ад вякоў дзяржаўны народ!

Так, вялікая, не зьнішчальная й пераможная сіла захаваная ў гэтых нашых традыцыях! І ня дзіва, што адвечныя ворагі нашыя так доўга стараліся, і цяпер яшчэ стараюцца вырваць іх з нашых сэрцаў. Галоўна праз нашых духовых калекаў-рабоў яны стараюцца апаганіць усё нашае, беларускае ды выхваляць чужое, варожае нам. О, нажаль, і цяпер гэтыя нашыя шашалі, як тыя чарвякі смуродныя, стараюцца спарахніць нашае жывое дрэва: разваліць найбольшую сьвятую справу нашую, нашую сьв. БАПЦарэкву! О, яны часам дзеюць тут навет у імя . . . Бога! І ня дзіва, бо для іх нічога сьвятога няма! Ад вякоў настаўнікі іхныя ў імя Бога вынішчалі наш народ, капалі нам магілу. Але ўжо тое, што мы ўсьцяж жывем, і ўсё болей аднаўляем нашыя слаўныя традыцыі, узмацняем іх, а гэтым і сябе, усё болей напаўняемся любоўю да ўсяго роднага ды ганарымся тым, што мы нашчадкі нашых слаўных продкаў, ясна сьветчыць нам, што праца чарвякоў надарэмная, безнадзейная, для іх самых згубная. Вось жа, помні аб гэтым.

Асабліва помні аб гэтым цяпер, у часе РАСТВА ХРЫСТОВАГА. Чаму? Таму, што веліч і слава нашага Беларускага Народу была пабудаваная на моцным, цьвёрдым Камені: на Ісусе Хрысьце, на Запаведзях і Навуцы Яго. Вялікая на тыя часы асьвета й культура Беларускага Народу тварылася пры манастырох нашае сьв. БАПЦарквы. Даволі нам тут успомніць тры імёны: прп. Еўфрасіньня Полацкая, сьв. Кірыла Тураўскі, прп. Аўраам Смаленскі, калі ў нас былі ня толькі пачаткавыя й сярэднія школы, але й Акадэміі! Падумай толькі: гэта было тады, калі навет маскоўскія князі й баяры ня ўмелі яшчэ ані чытаць, ані пісаць! Падумай і аб тым, што тады, калі маскоўскія князі рубалі баярам галавы, у нас усе галоўныя дзяржаўныя справы вырашала Веча! Але, слаўная была тады нашая Дзяржава!

Слаўная, бо прыняла Веру й Навуку Хрыстовую не языкам, а сэрцам і розумам, і паводля гэтае Навукі: любові да Бога й да бліжняга будавала сваё жыцьцё. Таму таксама, калі ў Маскве князі пікамі прабівалі сваіх епіскапаў, нашыя Князі станавіліся на калені перад імі, як перад сваімі настаўнікамі. Але, усё гэта выходзіла з markup-free рознага разуменьня Веры й Навукі Хрыстовае, і амаль тое самае мы бачым і цяпер.

Цяжкія часы мы перажываем і цяпер, але яны нямінуча зьменяцца, зазьзяе для нас сонца Праўды, бо Хрыстос, Бог наш, вечна Той Самы. Нашыя пабожныя продкі добра служылі Яму, і па традыцыі передалі й нам гэтае сваё служэньне. Будзем жа карыстацца ім: будзем стала добрыя, міласэрныя, поўныя любові да Яго, да нашае сьв. БАПЦарквы, і да свайго слаўнага народу, і Ён, Хрыстос, узнагародзіць нас Сваёю Ласкаю й Свабодаю так, як узнагарадзіў Віфлеемскіх пастыроў і трох мудрацоў, якіх мы й цяпер славім. Вось так Хрыстос узнагародзіць і нашую любую Беларусь: і Яе будуць славіць многія народы за Яе слаўнае служэньне Хрысту, Богу нашаму. А для гэтага натхнёна сьпявай Хвалу Нованароджанаму Хрысту, словам і чынам служы Яму й бліжнім сваім, а ў першую чаргу сваім суродзічам. Помні, што ты гэтым здыймаеш ланцугі няволі з свае любае й пакутнае Маці-Беларусі! Помні, што для таго Хрыстос і Нарадзіўся, каб на зямлі запанавала Валадарства Яго: супакой, праўда, любоў і радасьць, і Ягоная Божая Свабода для ўсіх людзей і народаў. Слава на вышынях Богу!

**С. КЛІМ**

## ХТО МОЖА ЗЬМЯСЬЦІЦЬ . . .

**Думкі . . .** (Працяг з № 23)

Думі бываюць душэўныя й духовыя, або: высокія й вялікія. Першыя будуюць матар'яльную культуру, цывілізацыю, вядуць да машынаў і плянэтаў, а другія будуюць культуру духовую, гісторыю, вядуць да запраўднага шчасьця, да Неба. Першыя праліваюць кроў, а другія асьвячваюць яе. Канец першых — сьмерць, а часта й пагібель, а другіх — несьмяротнасьць, спасеньне. Таму толькі той вялікі, хто вялікі на Небе, у Бога.

Што можа быць добрага з Назарэту? Пыталіся свае, і атрымалі адказ, пазналі. Што можа быць добрага зь Беларусі? Пыталіся й пытаюцца таксама й свае. І што-ж, знайшлі адказ, пазналі? Нажаль, толькі адзінкі. Чаму? Там атрымалі адказ, пазналі таму, што пыталіся ВЯЛІКІЯ. А вялікае могуць пазнаць толькі вялікія: добрага можа пазнаць толькі добры, вучонага — вучоны, мастака — мастак, мудрага — мудры.

І гэта закон жыцьця. Вялікае было й ёсьць у Беларусі, у ейных духовых курганох: у глыбінях мудрасьці народу. Прыйшоў час, каб мы гэтыя курганы нашае велічы раскапалі, пэрлы знайшлі. І калі будзем шукаць, знойдзем. Вялікія вучоныя, мудрацы сталіся такімі пэрламі пасьля даўгое, цяжкое працы. Мы падзіўляем іх, але не стараемся насьлядаваць. І тут вялікае заданьне передусім нашае моладзі: быць ня толькі высокім, але й вялікім. Палымнець гэтым жаданьнем, каб знайсьці пэрлы-дыяманты Вялікага ў Беларусі! Грызьці граніт навукі, адначасна здабываць мудрасьць, як Ласку Божую. Не глядзець на цяжкасьці й перашкоды, вагнём розуму й духа гарэць, падымацца ўгару! І Вялікае ў Беларусі адкрыецца, станецца нагародаю, вянком славы для змагара, для Беларусі, для ўсяго сьвету.

Падумай аб гэтым кожны беларускі студэнт, кожная студэнтка. Калі ты сташ перад памятнікам Скарыны, Каліноўскага, Купалы, Коласа, Багдановіча, Цёткі, тым болей сьв. Кірылы, ці сьв. Еўфрасіньні з гонарам і радасьцю, падумай прыгэтым: ці-ж ня добра гэта было-б як для цябе, так і для твайго народу, а можа й для ўсяго сьвету, калі-б так некалі стаялі й перад тваім памятнікам? Наш народ патрабуе гэтага. Ня ўсе могуць гэта асягнуць, але Бог жадае гэтага кожнаму. Жадае, каб мы злучыліся духам сваім зь Ягоным Усемагутным Духам, Каторы ўсё можа зрабіць: умудрыць, павысіць, праславіць навекі.

Бязумоўна, ня лёгкае гэта заданьне. Яно вымагае таксама адпаведных магчымасьцяў: быць незалежным духова й матар'яльна. Гэтых магчымасьцяў доўга ня мела нашая моладзь. Яна ня мае іх і цяпер у паняволенай Беларусі, а ўсё-ж многія там прабіваюцца праз усе цяжкасьці, духам сваім гараць, падымаюцца ўгару, знаходзяць пэрлы. А ты маеш тут гэтыя магчымасьці. Таму распальвай дух свой, імкніся да зораў, і Бог падтрымае цябе магутнаю рукою Сваёю, багаславіць, і паможа табе збудаваць слаўны памятнік, стацца вялікім на радасьць Яму й нам.

Дасканаласьць недасяжная, але яна цалуе тых, што стараюцца яе дасягнуць.

Адлегласьць між пачатковаю й сярэдняю школаю восем гадоў. Адлегласьць між сярэдняю й вышэйшаю школаю 4-5 гадоў. Але адлегласьці між дурным і мудрым чалавекам ня вымераем ані векам. Чаму дурны? Бо злы. Чаму злы? Бо дурны.

Дурны хваліць сябе́, разумны — іншых, а мудры — Бога.

Хто ўважае сябе мудрым у маладым веку, той ня будзе ім па век веку.

Вусны мудрага — бочка мёду, а дурного — смуроду. Праўда? Нажаль, не заўсёды, бо людзі часта ўважаюць мудрасьць за смурод, а смурод за „мудрасьць".

Бурныя хвалі берагі руйнуюць, а спакойныя — будуюць. Праўда ўцякае ад злабы, а жыве зь любоўю.

У цьвёрдым камені сталь зломіцца, а мяккое сэрца скрышыць яго. Колас пусты галаву задзірае, а поўны ўніз пахіляе.

Запраўднае жыцьцё ня мае страху, і сьмерці не баіцца, бо яно вечнае. Не чакай вечнасьці па сьмерці, бо можаш страціць яе. Здабывай яе цяпер. Тут уся мудрасьць і закон.

Хто за шчасьцем лятае, той яго ня мае, бо яго нам Бог пасылае. Запраўды свабодны толькі раб Бога.

На сьвеце звыш трох міліярдаў мазгоў, і ўсе яны зложаныя з тых самых атомаў, а чаму гэта звыш трох міліярдаў розных людзей? Навет родныя браты й сёстры розныя. Дзіва? Не, ня дзіва, бо ня мозг творца, а дух. Дух жа не матэрыя, а іскра Духа Божага, Каторы дае кожнаму нешта асобнае, сваё.

Як мароз бутэлку з вадою разрывае, так шатан праз людзкую гардыню сем'і й грамады разьбівае.

Шатан таксама магутны дух. І гэты дух злабы лёгка кіруе тым людзкім духам, які ня злучаны з Абсалютным Духам Божым. Адсюль усякая бяда ды найгоршае: рак духа, чума духовая. Бацылы гэтае хваробы пашырае праз бязбожнікаў шатан. Гэтыя свае бацылы ён пакрывае пазалотаю, таму яны небясьпечныя навет для многіх веруючых.

Цяпер эра „цудаў" навукі й тэхнікі. І гэтыя „цуды" будуюць дарогу для прыходу вялікага „цудатворцы". Яны памагаюць апошняму адводзіць людзей ад Бога, каб з самога чалавека зрабіць бога. Але, вяртаецца вецер на кругі свае: вы самі будзеце багамі!

Шатан ужывае яшчэ й іншыя спосабы, каб злавіць людзей у сваю пастку. Для гэтага ён пашырае войны, якіх усьцяж будзе болей. Гэтым ён наводзіць страх на людзей, і выклікае ў іх імкненьне да „міру". Якога? У Хрысьце й з Хрыстом? Не, у ім, і зь ім! Хрыста тымчасам трэба толькі выкарыстаць, каб страцілася мяжа між ім і Хрыстом, і каб такім чынам адкрылася шырокая, выгодная, прыемная, навет „разумная", чуць не „сьвятая" дарога да . . . пагібелі!

Усё гэта цяпер на вачох нашых. Хто можа зьмясьціць, няхай зьмясьціць, і — моліцца, і падпяража пояс Праўды Божае, і возьме шчыт Веры, і меч духоўны — Слова Божае ў рукі, і так будзе гатовы бяз страху спаткаць усё, што з Волі Божае можа прыйсьці. І калі ў Плянах Божых ёсьць, каб закрасавала нашая любая Беларусь, тады мы зможам належна падзякаваць Яму, каб Ягоная Ласка прабывала з намі да канца веку тут на зямлі.

І толькі тады нашая Беларусь станецца запраўды Вялікаю, бо ўсе гэтак званыя „вялікія" дзяржавы дасюль былі такімі толькі з назову, у хворай фантазіі, а не ў запраўднасьці, у Бога. Калі на тое будзе Воля Божая, гэта пазнаюць у будучыні ўсе народы. Нашым заданьнем ёсьць, каб нашая Беларусь была тут першаю. Вялікае, немагчымае заданьне? Не, магчымае, бо такое вялікае жаданьне багаслаўляе Вялікі Бог! Старайся жа стацца вялікім! Вялікім у Бога! На Славу Яму, табе й усім нам. **Х.**

## СЛУЖЭНЬНЕ НАРОДУ

(Працяг)

Папярэднія разважаньні тут мы закончылі тым, што кожны наш патрыёт можа быць будаўніком нашае дзяржаўнасьці, і належным слугою свайго народу, калі станецца МУДРЫМ, а такім ён можа стацца толькі тады, калі будзе ведаць, што гэта мудрасьць, адкуль яна паходзіць ды будзе старацца здабыць яе. Што-ж гэта мудрасьць і адкуль яна паходзіць? Адзіным аўтарытэтам тут для нас ёсьць сьв. Пісаньне. Мудры Саламон сказаў: „Пачатак мудрасьці — страх Госпадні" (Прыт. 9, 10). А страх Госпадні, кажа ён, гэта страх, каб мы злабою, гардыняю, подступам, ілжою не прагнявілі Бога (Прыт. 8, 13). А сьв. вярхоўны Апостал Павал кажа: „Адзінаму Прамудраму Богу чэсьць і слава на векі вякоў" (1 Цім. 1, 17). Прамудрасьць, або Розум Божы, бязьмежны: „Вялікі Бог наш, вялікая сіла Яго, і Розуму Яго меры няма" (Пс. 147, 5). Аднак, Бог Прамудрасьці Свае не хавае ад нас, наадварот, адкрывае й дае кожнаму, хто любіць Яго й хоча быць мудрым: „І ратаваў Бог Язэпа ад усякіх бедаў, і даў яму Ласку й Мудрасьць перад фараонам" (Дз. 7, 10). Так Бог даў Мудрасьць Майсею ды іншым пракорам і Апосталам. І аб гэтым стала дбаў сьв. Ап. Павал, і навучаў вернікаў сваіх: „Каб Гасподзь Бог даў вам Духа Мудрасьці на пазваньне Яго" (Эф. 1, 17). І каб яны былі пэўныя ў гэтым, ён кажа ім: „Так, ніхто ня зглыбіў, ня зьмераў Прамудрасьці, Розуму Божага, аднак, мы маем Розум Хрыстовы" (1 Кар. 2, 16). Гэтым ён казаў ім, што праз Хрыста Бог Айцец ня толькі адкрывае нам Сваю Прамудрасьць, Свой Розум, але й жадае, каб Мудрасьць, як Розум Яго, мы стала здабывалі й мелі. Тады



мы будзем запраўды шчасьлівыя, як і сказаў прарок: „Шчасьлівыя, каму Бог памагае, і надзея каго на Госпада" (Пс. 146, 5).

Так, Бог жадае нам дабра, мудрасьці й шчасьця. Дзеля гэтага Ён і Сына Свайго паслаў нам, Каторы стаўся Чалавекам, каб мы сваім людзкім розумам маглі злучыцца з Прамудрасьцяй Божай, сталіся МУДРЫМІ супрацоўнікамі Яго, а гэтым і будаўнікамі свайго шчасьця на зямлі й на Небе.

Таму Хрыстос усьцяж і цяпер заклікае людзей да злучэньня з Богам, а гэтым і да Мудрасьці, да жыцьця ў Духу Сьвятым, або як мы кажам: да ДУХОЎНАГА жыцьця. І гісторыя вучыць нас, што калі толькі людзі адмаўляюцца ад кіравецтва Божага, тады яны йдуць пад кіравецтва злых тыранаў.

І ўся бяда нашая ў тым, што многія, навет веруючыя, блудзяць, калі думаюць, што яны з Хрыстом, але не жывуць згодна з Навукаю Яго, па блудных шляхох ходзяць. Так, дзеля многіх слабасьцяў, грахоў, людзі ня толькі не злучаюцца з Богам, Каторага ня бачаць, але ня могуць насьлядаваць і Хрыста-Чалавека. Бог бачыць гэта, таму памагае нам Духам Сваім Сьвятым. Духам Сьвятым Бог узмацняе нашую Веру, волю, розум, натхняе на вялікія чыны, напаўняе любоўю, і так прыбліжае да Хрыста.

Дзякуючы гэтай Ласцы Божай да нас, мы атрымоўваем сілу, якая перавышае ўсе нашыя людзкія сілы, ды дае нам уцеху, вытрываласьць, цярплівасьць, адначасна пазнаньне дабра й зла. Яна дае нам і радасьць, бо тады з нас радуюцца Бог, анрелы й людзі. Яна, як Любоў Божая да нас, выклікае й нашую любоў да Яго, і да людзей. Носьбітам Яе ёсьць Дух Сьвяты. Гэта той наш слаўны вагонь зь Неба, які выпальвае ня толькі ўсё благое ў нас, але й асьвятляе навакольную цемру, і прыносіць радасьць многім, бо прыводзіць іх да Сьвятла-Хрыста, тым болей, што гэты Дух Сьвяты ёсьць і Духам Хрыстовым: Духам Супакою, Дабра, Праўды, Красы, Мудрасьці, Радасьці й Шчасьця.

Вось так Гасподзь Бог жадае прывясьці нас да Сябе, зрабіць нас дзяцьмі Сваімі, стацца АЙЦОМ нашым. А кожны добры айцец любіць добрых дзяцей сваіх і наадварот. Таму й мы, калі хочам быць добрымі дзяцьмі Айца свайго Нябеснага, павінны любіць Яго, і служыць Яму. Але гэта яшчэ ня ўсё. Калі мы жывем згодна з жыцьцём і Навукаю Хрыстоваю ў сьвятле Духа Сьвятога, тады мы становімся падобнымі Яму, Богу, і гэтым зьзяем Ягонымі Боскімі якасьцямі, або, як кажуць многія сьв. Айцы Царквы, АБАГАЎЛЯЕМСЯ!

Вось чаму, калі мы жывем у Хрысьце, у Богу жывем, і цудоўная любоў Яго напаўняе нас. О, тады ўсякае дабро, усякая краса, як з крыніцы вада, стала выходзіць з нас, і мы тады служым Богу не

фальшыва, як тыя фарысеі, або нявольнікі, а дабравольна, шчыра й радасна, бо стала хочам быць падобнымі Яму, Хрысту-Богу толькі дзеля свае любові да Яго. Мы тады ўжо запраўдныя воі Хрыстовыя, а добрыя воі робяць толькі тое, што падабаецца іхнаму начальніку. А паколькі наш Пастыраначальнік, Хрыстос, памёр за ўсіх добрых і злых, такія робяць тое самае: дабро для ўсіх, словам і чынам служаць усім. І добра служаць, бо яны ўжо ўзмоцненыя ўсёю зброяй Хрыстовай: Ягоным Дабром, Ягонай Любоўю й Мудрасьцяй. Але, праўду сказаў сьв. Апостал Іоан, што хто кажа, што ён любіць Бога, а бліжніх сваіх ненавідзіць, у таго няма ніякае любові, і ён няпраўду кажа. Так, няпраўду, бо хто запраўды любіць Бога, той поўны любові да ўсіх дзяцей Яго — людзей. Таму праўдаю тут ёсьць: я пазнаў і палюбіў Бога, і адсюль навучыўся любіць ўсіх людзей, за якіх Ён памёр. Таму фальшывыя мудраваньні тых, што кажуць: я палюбіў людзей, і адсюль палюбіў Бога. Небясьпечныя гэта мудраваньні дзеля слабасьцяў, гардыні й злобы людзкое. Таму яны часта й канчаюцца катастрофаю: зьняверрам, бо любоў толькі ад Бога паходзіць.

Таму толькі чалавек поўны любові Божае, а не свае, часта сваекарыснае й слабое любові людзкое, жыве ў Хрысьце, на кожным кроку служыць Богу, азброены сілаю й Ласкаю Яго, зьяўляецца Ягоным прадстаўніком, апосталам, добра служыць і людзям. Такі ўжо ведае, што ад сьвету гэтага, які ў зьле ляжыць (1 Іо. 5, 19), трэба не ўцякаць, а яго апаноўваць, да Бога прыводзіць. Ён ужо ведае Провід Божы, пляны Госпада адносна ўсіх людзей, таму ўсьцяж стараецца супрацоўнічаць з Богам у выпаўненьні плянаў гэтых. І тут ёрадасьць і шчасьце яго, а таксама й ягонага народу. Такі ўжо добра служыць свайму народу. **С. К.**

(Далей будзе)

## ДА УГОДКАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

Беларускі Народ можа ганарыцца сваім гістарычным мінулым. У гэтым годзе спаўняецца 675 гадоў ад афіцыйнага пачатку Літоўска-Беларускае Аўтакефальнае Царквы. У 1291 г. Канстантынопальскі Патрыярх прызначыў Феафіла Мітрапалітам Наваградзкім, зацьвердзіў гэтую Мітраполію й прызначыў ёй 82-ое месца ў Патрыяршай Радзе, на агульную колькасць 100. Сядзібай Мітраполіі быў Навагрaдак. Наваградзкія Мітрапаліты прыймалі ўдзел у паседжаньнях Канстантынопальскіх Сынодаў у 1317, 1327, 1329 гадох. У 1356 г. Мітрапаліт Раман паўторна быў у Канстантынопалі, дзе былі разьмяркаваныя тэрыторыі ягонае юрысдыкцыі. Яму былі падпа-



радкаваныя Епархіі: Наваградзкая, Полацкая, Турайская, Валынская й Бранская.

Патрыярх Антоні вызначыў у 1393 г. грэка Фоція Мітрапалітам Вялікага Княства Літоўскага й „усяе Русі". Нашая Царква дамагалася назначэньня Мітрапалітам Полацкага Епіскапа Хвядоса, але Патрыярх на гэта не пагадзіўся. Мітрапаліт Фоці, пасьля кароткага прабываньня ў Навагрaдку, паехаў у Маскву й там затрымаўся, а нашую Царкву пакінуў без належнае апекі. Калі інтэрвэнцыі й просьбы ў Патрыярха тут не далі выніку, тады быў скліканы Сабор у Навагрaдку, дзе 15 лістапада 1414 г. быў выбраны й пастаўлены Мітрапаліт Грыгор Цамблак. У склад Мітраполіі тады ўваходзіла 7 Епархіяў: Полацкая, Чарнігаўская, Луцкая, Уладзімерская, Смаленская, Тураўская й Холмская. Галавы ўсіх гэтых Епархіяў падпісалі Саборны Акт. Наступны Сабор адбыўся ў 1433 г., дзе быў выбраны Мітрапаліт Герасім, якога прызнаў Канстантынопальскі Патрыярх.

Вельмі важным быў пасьля Вялікі Сабор, які адбыўся ў 1509 г. ў сталіцы ВКЛітоўскага — Вільні. Сабор апрацаваў 14 правілаў для кіраваньня Літоўска-Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою. Архіеп. Філарэт назваў гэты Сабор „знаменальным", кажучы: „На ім былі выпрацаваныя правілы шляхотныя, цьвёрдыя, дастойныя Усходняга Праваслаўя". На Саборы былі прысутныя 7 Епіскапаў: Полацкі, Смаленскі, Турава-Пінскі, Луцкі, Перамышлянскі, Уладзімерскі й Холмскі.

Сувязь Сьв. БАПЦарквы з Канстантынопальскім Патрыярхам трывала аж да 1796 г., да часу акупацыі Беларусі Расеяй. Тады Беларуская Мітраполія была гвалтам далучаная да юрысдыкцыі Расейскае Праваслаўнае Царквы.

Пасьля рэвалюцыі ў 1917 г. Маскоўскі Патрыярх страціў кантролю над Беларускаю Царквою. Беларуская Духавенства на чале з Мітрапалітам Мэлхіседэкам склікала 23 ліпеня 1922 г. Сабор у Менску, на якім аднавіла Мітраполію сьв. БАПЦарквы. Аднак, гэты Акт аб Аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы Савецкая ўлада спаткала варожа. Яна арыштавала Мітрап. Мэлхіседэка ды ўсіх саборных сьвятароў, якія вось так заплацілі за гэты Акт сваім жыцьцём. А ўсё-ж барацьба за Аўтакефалію прадаўжалася й была зноў пацьверджаная на Саборы ў 1927 г. у Менску.

Наступнае аднаўленьне Мітраполіі БАПЦарквы адбылося на Саборы ў Менску 30-га жнівеня 1942 г., на якім быў прыняты Статут Сьв. Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Мітраполія сьв. БАПЦарквы праводзіла рэлігійную дзейнасьць де чэрвеня 1944 г., пасьля чаго Сабор Епіскапаў на чале з мітрапалітам Пан-

цялейманам эвакуаваўся ў Нямеччыну.

Зараз па заканчэньні 2-ой Сусьсетнай вайны Беларусы пачалі арганізаваць Прыходы БАПЦ ўва ўсіх беларускіх лягерях, а ў Рэгенсбургу была нават пабудаваная свая Царква. Нажаль, Сабор Епіскапаў БАПЦарквы пачаў патаемна вясьці перамовы з Сынодам Расейскае Зарубежнае Царквы аб пераходзе ў гэтую юрысдыкцыю. У адказ на гэта прадстаўнікі Беларускіх Арганізацыяў з усіх зонаў сабраліся на З'езд у Рэгенсбургу 5 травеня 1946 г. для абмеркаваньня гэтага балючага пытаньня. На гэты З'езд прыбылі Архіеп. Філафей і Еп. Апанас. З'езд моцна прасіў іх не пакідаць БАПЦарквы, але надарэмна. Ужо 6 травеня 1946 г. Сабор Епіскапаў БАПЦ перайшоў да Расейскае Зарубежнае Царквы, і такім чынам пакінуў нашую сьв. Праваслаўную Царкву сіратою.

Беларускія аўтакефалістыя, жадаючы ратаваць сваю Сьв. БАП Царкву на Эміграцыі, пастанавілі шукаць выхаду з гэтага цяжкога палажэньня. Увага была накіраваная на Украінскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. З гэтаю мэтаю Беларуская дэлегацыя ў складзе: Інж. Ул. Тамашчыка, Старшыні Беларускага Цэнтральнага Камітэту, В. Кендыша, Старшыні Беларускага Камітэту на Амэрыканскую Зону, і Інж. М. Горошко, Старшыні Беларускага Камітэту Акругі Мюнхэн была прынятая Саборам Епіскапаў сьв. УАПЦарквы ў 1947 г. Сабор выйшаў нам на спатканьне, і Епіскап Сергій прыняў пад апеку сьв. БАПЦаркву. На Саборы ў Канстанцы 5 чэрвеня 1948 г. справа гэтая была кананічна аформленая. На дапамогу яму ў сьнежні 1949 г. Саборам Епіскапаў сьв. УАПЦ быў хіратанізаваны Архімандрыт а. Васілі ў Епіскапа сьв. БАПЦарквы. Такім чынам Аўтакефалія нашае сьв. БАПЦарквы была кананічна адноўленая.

Цяпер БАПЦарква мае свае Прыходы ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Англіі й Бэльгіі. Многія беларускія сьвяшчэньнікі пайшлі, па прыкладу нашых былых епіскапаў, у чужыя юрысдыкцыі. Яны забыліся на патрэбы свайго пакутнага народу, служаць чужым, часта нашым ворагам, а тымчасам сьвяшчэньнікі нам як соль патрэбныя!

На сьв. БАПЦаркву, як на аснову свае духовае Незалежнасьці, з радасьцю глядзіць і моліцца за Яе наш паняволены Беларускі Народ. Таму асабліва мы тут павінны ўсе стала падтрымоўваць Яе ня толькі маральна, але й матар'яльна, бо Яна нашая адзіная, родная, духоўная Маці, якая злучае нас з Богам ды моліць Яго вызваліць зь бязбожнае няволі нашую Радзіму Беларусь.

**В. Кендыш**

# ХРОНІКА

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА АРХІМАНДРЫТА

На Вячэрні ў Кафедральным Саборы ў Нью-Ёрку, 1-га кастрычніка ў суботу, Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап Васілі падстрыг у манаха Настаяцеля сьв. БАПЦарквы ў Торонто мітраф. прат. а. Міхаіла Мацукевіча й даў яму новае імя — Мікалай.



А ў Нядзелю, 2-га кастрычніка, у часе сьв. Літургіі, якую Уладыка адправіў у асысьце Настаяцеля сьв. БАПЦарквы ў Нью Брансьвіку мітраф. прат. а. Сьцяпана, мітраф. прат. а. Мікалая й а. Юрыя, а. Мікалай быў высьвячаны Уладыкаю ў сан Архімандрыта. Беларускае грамадзтва Нью-Ёрку, Нью Джэрзі й ваколіцаў з радасьцю ўспрыняла гэтую ўрачыстасьць, і ў колькасьці звыш 100 асобаў, прыняла ўдзел у ёй. Слаўная гэта была ўрачыстасьць, і ўсе натхнёна дзякавалі Богу за яе.

Пасьля Службы Божае ў царкоўнай залі адбыўся банкет з удзелам усяго Духавенства, амаль усіх вернікаў і гасьцей. Пасьля Малітвы й багаславенства Уладыкі, скора распачаліся прамовы й прывітаньні Архімандрыта а. Мікалая. Прамаўлялі: ад Епархіяльнае Управы др. В. Васілеўскі, а. Юры, які, між іншым, выявіў сваю адданасьць і вернасьць БАПЦаркве й Уладыцы Васілію, бо гэтага, сказаў ён, цьвёрда вымагаюць каноны сьв. Праваслаўнае Царквы. У гэтым часе дзяўчынка Ларыса Курыла паднесла Архімандрыту а. Мікалаю вялікі букет белых і чырвоных кветак, упрыгожаны бел-чырвона-белымі стужкамі. Далей прамаўлялі: сп. В. Кендыш, др. Ул. Набагез, сп. П. Кажура, інж. М. Горошко, сп. Ул. Русак, др. Ул. Бакуновіч, і сп. А. Асіповіч. Др. Ул. Набагез падаў гістарычныя даты нашае сьв. БАПЦ, яе 675-х угодкаў, пачынаючы ад Наваградка, і яе поўнае кананічнасьці.

Усім тым, што выступалі з прамовамі й прывітаньнямі, а таксама й усім прысутным на ўрачыстасьці, скромна, але вельмі чула падзякаваў Архімандрыт а. Мікалай. Пасьля гэтага гарачай прамовай, поўнай Веры й Надзеі на будучыню нашае сьв. БАПЦарквы парадаваў усіх Уладыка Васілі.

Урачыстасьць закончылася супольнай Малітвай і багаславенствам Уладыкі. Яна радавала ўсіх таму, што ясна паказала пашану, вернасьць і любоў Беларускага грамадзтва да сваей роднай сьв. БАПЦарквы, а таксама да яе Духавенства на чале з Уладыкаю Васіліем тут у нас.

Нарэшце хочам сказаць яшчэ пару слоў. У ведамай газэце прадстаўнік ведамага асяродзьдзя напісаў: Уладыка Васіль правёў гэтую ўрачыстасьць патаемна. Праўдаю ёсьць: Уладыка два разы гаварыў пра яе з Амвону, а тыдзень перад ёю пры большай колькасьці людзей дагаварыўся з тым асяродзьдзем адносна залі й абеду. Далей: быццам бальшыня прысутных былі каталікі! Тымчасам іх было: чатыры асобы. Нарэшце нешта вясёлае: Уладыка Васіль паклікаў у Царкву цэлы аддзел паліцыі! Калі-б хто запытаўся ў тых звыш 100 асобаў прысутных аб гэтым, то напэўна пачуе адказ: нікога ня бачылі. Але нехта ўсё-ж хіба пабачыў! Хто? Той, што думаў злое.

## ТРЭЙЦІ ЕПАРХІЯЛЬНЫ САБОР СЬВ. БАПЦАРКВЫ

Сабор гэты адбыўся 16-га лістапада ў Царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто. Пачаўся ён супольнаю Малітваю „Цару Нябесны" й багаславенствам Уладыкі Васілія, які, згодна з царкоўнымі правіламі й кіраваў ім, паклікаўшы да Прэзыдыюму ўсё Духавенства: Архімандрыта а. Мікалая, прат. а. Аляксандра, а. Юрыя й а. протадыякана Калістрата, сакратара Епархіяльнае Управы др. У. Бакуновіча й двох сакратароў для вядзеньня Пратаколу: др. Раісу Жук-Грышкевіч і сп. К. Акулу. Мітр. прат. а. Сьцяпан дзеля недамаганьня ня змог прыбыць на Сабор. Усяго дэлегатаў было: 51.

Уладыка Васіль сказаў Слова пра палажэньне Праваслаўных ды іншых Цэркваў і Рэлігіі наагул у сьвеце, а таксама пра нутраное палажэньне нашае сьв. БАПЦарквы. Тут Уладыка падаў дэлегатам абраз таго, як багаборцы ця-

пер стараюцца зруйнаваць усе Цэрквы й Рэлігію, і якім чынам яны гэта робяць. У асноўным гэта пашыраньне сваркаў, непаразуменьняў, варожасьці сярод вернікаў з аднаго боку ды падрываньня аўтарытэту, асьмяшаньня, ачарняньня Духавенства, а перадусім кіраўнікоў Цэрквай: Епіскапаў. Уся гэтая акцыя вядзецца з цэнтру — чырвонае Масквы з дапамогаю паслушнага ёй духавенства, а таксама: падступамі, абманам, ілжою. Гэтая зараза пранікла ўжо ў Цэрквы ўсіх веравызнаньняў.

Ясна, не мінула яна й нашае сьв. БАПЦарквы, таму, нажаль, праявілася яна й на нашым Саборы ды ўжо пры прыняцьці Парадку Дня. Аднак, бальшыня дэлегатаў праявіла тут ня толькі вернасьць, але й любоў да свае БАП Царквы, і Парадак Дня быў прыняты бальшынёю 24-х галасоў супраць 19. У далейшым здавалася, што праца Сабору пойдзе ў супакоі й паразуменьні, бо, вось, прадстаўнік незадаволеных дэлегатаў з Брукліну сп. Я. Казьлякоўскі зьвярнуўся да Уладыкі з просьбаю прымірыцца зь імі, на што Уладыка запытаўся ў яго: а ці будзеце падпарадкавацца мне? На гэта сп. Я. Казьлякоўскі адказаў: так, будзем. Тады Уладыка перахрысьціўся й сказаў: ну, тады слава Богу! Бальшыня дэлегатаў з задаваленьнем адказала на гэта воплескамі.

І здавалася, што ўсе непаразуменьні такім чынам ужо зьніклі, і ўсё будзе добра. Нажаль, так ня сталася. Калі пачаліся выбары новае Епархіяльнае Управы, і Уладыка, згодна з царкоўнымі правіламі, пачаў вызначаць сьвяшчэньнікаў на Старшыняў розных Аддзелаў Управы, і папрасіў выстаўляць кандыдатаў на сяброў гэтых Аддзелаў, некаторыя дэлегаты з Кліўлэнду й Брукліну зажадалі ад яго, каб і Старшыні Аддзелаў былі выбраныя Саборам, на што Уладыка сказаў: не магу на гэта пагадзіцца, бо гэта пярэчыць царкоўным правілам. Тады частка дэлегатаў пакінула Сабор.

Пасьля гэтага Сабор ужо запраўды ў супакоі й паразуменьні прадаўжаў сваю працу, і ў запраўднай брацкай любові пасьпяхова яе закончыў. Сабор аднагалосна прыняў 10 дадаткаў да нашага Епархіяльнага Статуту, якія маюць на мэце абараніць нашую сьв. БАПЦаркву ад усякіх спробаў разьбіцьця Яе ў будучыні, і ў гэтым вялікі посьпех нашага трэйцяга Епархіяльнага Сабору. Новай Епархіяльнай Управе жадаем усякіх посьпехаў.

Сабор закончыўся супольнаю Малітваю „Дастойна ёсьць" і багаславенствам Уладыкі Васілія. Па заканчэньні Сабору тыя, што выйшлі, у ліку 19 асобаў, злажылі пісьмовы пратэст супраць „дыктатарства" Уладыкі. Няхай Бог выбачыць ім гэтую іхную засьлепленасьць.

СЬВЯТА ГЕРОЯЎ У НЬЮ-ЁРКУ. Адбылася яно 4-га сьнежня. Уладыка Васілі ў асысьце а. Юрыя адслужыў ўрачыстую Заупакоўную Літургію ў Кафедральным Саборы й супольную Паніхіду, ды сказаў чулую натхнёную пропаведзь пра Ахвяру крыві нашых Герояў. Прыгожа пяяў Хор пад кіравецтвам сп. М. Тулейкі. Пасьля адбылася ўдалая Акадэмія, якая цяпер была арганізаваная ЗБВ у форме памінкаў.

**Высокапрэасьвяшчэньнейшых Уладыкаў нашых, Архіепіскапаў СЕРГІЯ й ВАСІЛЯ, Высокапрэпадобных Архімандрытаў, Мітрафорных Пратаіерэяў, Пратаіерэяў, Прэпадобных Айцоў, дастойных Рэгентаў і Харыстых, Хвальныя Царкоўныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы, дзяржаўныя, навуковыя й грамадзкія Установы, усіх вернікаў сьв. БАПЦарквы, чытачоў „Царкоўнага Голасу", і ўвесь** наш Беларускі Народ сардэчна вітае з РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ І НОВЫМ — 1967 — ГОДАМ:

**ЕПАРХІЯЛЬНАЯ УПРАВА БАПЦ АМЭРЫКІ Й КАНАДЫ.**